# РАДАВАЯ РБ БЕЛАРУСЬ

Субота. 19 чэрвеня 1999 году. № 6 (00006)
Наклад 400299. Кошт 10000 талераў

Грамадзка-палітычная газэта
Заснаваная ў студзені 1999 году


## КАЗКІ ЖЫЦЬЦЯ

### ЧАКАНЬНЕ БОЛЮ

**Усё, як у Пазьняка**

#### Імя.

Гэта трэба адчуць. Чым больш я ўслухоўваюся ў *тры мэлядычныя склады* Яе імя, чым глыбей рассмакоўваю сем гукаў, спрабуючы напрыканцы ўлавіць няісны, апошні, самы пранізьлівы... у мяне пачынае *буйней біцца сэрца* і кружыцца галава. Хочацца ціха заплюшчыць вочы й маліто‌ўна, урачыста шаптаць пра сябе: "Непамерная ласка Твая! Дзякую.Табе..."

#### Валасы.

У мяне перад вачыма Пазьняк з растрапаным валосьсем, у насьпех зацыраваным плашчы, поплеч з Клінтанам на краі курапацкае ямы, а ўвушшу пранізьлівы віск дзяўчыны, якую вы-цялі гумовым дубіналам.

#### Вочы.

Паглядзіце ў вочы любому беларусу. Такое ўражаньне, што ён пастаянна церпіць боль.

#### Боль.

Беларусь - вечнае прытулішча гнанага адусюль *гэбрайства*. На гэтай зямлі разьмясьцілася адна з самых *пладавітых* дыяспараў у сьвеце. Увогуле, беларускае гэбрайства тэма асобнае *гутаркі, паэтычнай і ўзьнёслай*. А там, дзе такі ўздым *абранага Богам* народа, там, дзе адвечны жыд знаходзіць абжытую зямлю чакай вялікае таямніцы. І болю.

#### Рэшта.

У астатнім - усё, як у Пазьняка.

**Павал СЕВЯРЫНЕЦ**
**("Наша ніва" № 23, 1998)**

P. S.: Гэтыя нататкі зь леташняга нумару мінскае газэты "Наша ніва" маюць на мэце паказаць стан, у якім гадуецца моладзь у РБ: у суцэльным палітычным, моўным ды маральным невуцтве й разбэшчанасьці.

# ЧАМАДАН.ВАКЗАЛ.РАСЕЯ




*Чэрвень 1999. Менскі вакзал гатовы да дэпартацыі маскалёў*

Апошні нумар газэты маскоўскае нацыянальнае меншасьці ў Беларусі "Русскій набатъ" выйшаў зь вялікім артыкулам ейнага палітычнага аглядальніка Славы Расеява пра геапалітычныя пляны Крамля на заходнім фронце ягонае вонкавае палітыкі. Там аналізаваліся матар'ялы маскоўскае выведкі з пачварным праектам анэксіі абшару ад Беларусі да Харватыі з мэтаю стварэньня калідору паміж Бялградам і Масквой. Міністэрства замежных справаў Беларусі выступіла з нотаю й пагрозаю закрыцьця ўсходняе мяжы, адылі ў кіраўніцтве суседняе дзяржавы ніхто не зрэагаваў, нават у вядомай сваёю заўсёднаю эмацыйнаю ўзружанасьцю Думе. У выніку зьявілася пастанова Народнага Сакратарыяту аб высяленьні элемэнтаў пятых каленаў замежных дзяржаваў з тэрыторыі Беларусі. На гэта імгненна зрэагавала вонкавапалітычнае ведамства Маскоўшчыны, а на заклік расейскіх ультра-правых амбасада БНР у гэтай краіне была закіданая беларускім нацыянальным прадуктам - яйкамі. Урэшце, цярплівасьць нашага ўраду скончылася і ўсе аб'ўднаньні маскоўскае дыяспары атрымалі паведамленьні з патрабаваньнем тэрмінова пакінуць тэрыторыю Беларусі ў зьвязку з пагрозай іхнага знаходжаньня ў БНР для сувэрэнітэту краіны. У разе невыкананьня пастановы Народнага Сакратарыяту распачнецца прымусовая дэпартацыя чатырохтысячнага кантынгенту маскалёў зь беларускае зямлі. У месцах кампактнага пражываньня гэтае нацыянальнае меншасьці ўжо паклееныя плякаты зь перакрэсьленымі дзьвюхгаловымі арламі й надпісамнапамінам: "Чамадан. Вакзал. Расея". Беларуская чыгунка падрыхтавала на выпадак ажыцьцяўленьня акцыі 30 запасных цягнікоў, што чакаюць загаду на каляінах Менскага, Смаленскага, Гомельскага ды Бранскага вакзалаў.

Маскоўскі ўрад можа выправіць сытуацыю толькі праз публічнае прабачэньне перад беларускім народам і выданьне нашай краіне ўсіх сакрэтных плянаў анэксіі ейнае тэрыторыі.

**Фэлікс Койданаўскі**

*Чэрвень 1939. Вільня. Дэпартацыя жамойтаў*



## СПЭЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# СЬВЯТА МІРУ І ПРАЦЫ

50-тысячная першатравеньская дэманстрацыя, што адбылася ў Мінску на дзень салідарнасьці працоўнае грамады ўсяго сьвету пад лёзунгам "пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!". Маніфэстанты праляцелі, як праўдзівыя пралетары, у калёне сацыял-дэмакратаў і анархістаў, крычучы: "Мір! Праца! Травень! Вольнасьць! Роўнасьць! Братэрства!" Але сьвята, на жаль, не прамінула без эксцэсаў. Падзеі камэнтуе вязень сумленьня з засьценкаў Варвашэні-8, маладапанковец, галава Манархава-сацыялістычнае партыі Сярджук Шмялёў:

-Трухлявыя бэнэіксаўцы (сябры тамтэйшага клюбу аматараў NATO БНХ "Выраджэньне" - рэд.), падпітыя за кошт атрыманых грантаў і разьюшаныя як быкі ад чырвоных колераў маладапанкоўскіх сьцягоў, спрабавалі зьдзейсьніць гнюсную правакацыю. Яны кінуліся ў калёну з кулакамі бараніць капіталістычны лад жыцьця, але нашых шэрагаў не зламаць! Прашпацыраваўшы праз спадарыні Моніцы Лявінскай ды ўваскрасіць таварыша Чэ Гевару і пана Вітаўта Кейстутава Гедзімінавіча (мянушка *Вялікі*). Мэта ўваскрасеньня гэтых грамадзянаў не была патлумачаная спадаром Шмялёвым, адылі, як ён кажа: "Нашыя воклічы мелі шырокае падтрыманьне сярод працоўных і навучальных масаў. Урэшце, паслаўшы да Зянона-чорта прадстаўнікоў зацьвілага псэўдадэмакратычнага балота, дэсант Панкоўскага Княства Літоўскага (парэшткаў ВКЛ, што перагнілі й цудам захаваліся ў зарасьніках на узьбярэжжы Рэчкі-сьмярдзючкі ((даўней *Сьвіслачы*) - рэд.) дружна скіраваўся да свае рэзыдэнцыі праводзіць 2-гі Сойм маладых панкоў".

У Рэспубліцы Беларусі апазыцыя, прыціснутая тамтэйшым аўтарытарным рэжымам, яшчэ падае свой голас і не зьбіраецца здавацца. Сьведчаньнем прагі значнае колькасьці нашых братоў беларусаў з-за кардону жыць у вольным гаспадарстве сталася FuckDonalds, мы прадэклярavalі свае стаўленьне да гэнага імпэрскага пойла, якім труцяць працоўныя масы абедзьвюх беларускіх дзяржаваў".

Выказаўшы сваё стаўленьне да NATO - "карніцкіх органаў ЗША", маладапанкоўцы паралі сьціснуць зубы

Першатравеньская дэманстрацыя скончылася без ахвяраў сярод людзей: 13 камуністаў забіта, 4 ультра-нацыяналісты з дывізіі СС імя Адольфа Мікуса паранена, адзін пёс памёр у рэанімацыі ў выніку бойкі з катамі легіёну "Whiskas".



*На фота другі справа: галава Манархава-сацыялістычнае партыі Сярджук Шмялёў*

У Менску дзень 1 травеня мінуў спакойна. На Захараўскай вуліцы (у гонар Васіля Захаркі) прайшла 200-тысячная дэманстрацыя працаўнікоў нацыянальна-культурніцкага фронту й сялянства, што скончылася масавымі гуляньнямі. Ля помніку Рэспублікі адбылося ўскладаньне кветак змагаром за вольнасьць краіны, дзякуючы якім беларускі народ назаўжды адваяваў свае права на нацыянальную дзяржаву й мірную працу ў ёй. Плянуецца, што цяпер Першатравень будзе сьвяткавацца штогод як знак пашаны да шматлікіх працаўнікоў вёскі й каапэрацыйных гаспадарак, якія ўсё сваё жыцьцё прысьвяцілі роднай зямлі, каб жыў наш вялікі народ і любая Бацькаўшчына - Беларусь.

**Элка Людажэрка, "РБ"**

P. S: Рэдакцыя "Радавае Беларусі" перапрашае за спазьненьне ў інфармаваньні пра падзеі ў Мінску ў зьвязку зь зьняволеньнем нашага карэспандэнта ў Пішчалаўскім замку сталіцы Рэспублікі Беларусі й немагчымасьцю да ягонага вызваленьня атрымаць гэты матар'ял.

## АБВЕСТКІ

Рэдакцыя "Радавае Беларусі" віншуе маладых панкоў з народзінамі: Сержука Міхальчука (17. 06), Макса Кашынскага (20. 06) і Серджука Шмялёва (22. 06). Зычым ім плённае працы ў разбурэньні антынароднага рэжыму ў РБ, змаганьня зь нячысьцікамі з БНХ "Выраджэньне" ды ўсталяваньня ў братняй Рэспубліцы Беларусі праўдзівае дэмакратыі й народнае ўлады. Жывом!

Падпіску на газэту **"Слова нацыі"** - орган Беларускае нацыянал-сацыялістычнае рабочае партыі (NSBAP), можна аформіць па адрасе: 220086 а/с 121 Менск.

Неўзабаве выйдзе новы праект "Радавае Беларусі" - літаратурна-спэцыфічная газэта **"НАША НІВА ІСЬЦІННАЯ"**. У першым нумары: творчая бягунка Дзеда Карнея,; праўда пра канец сьвету, інтэрвію (з фатаздымкам) жывое вядзьмаркі і г. д.

**КУПОН**
**БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашую абвестку (ня болей як 13 словаў) бясплатна. а/с 169 220030 Менск

Тэкст ____________________

____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

РАДАВАЯ БЕЛАРУСЬ

Заснавальнікі—Народны Сакратарыят Беларускае Народнае Рэспублікі й Рэдакцыйная Рада

*Наш адрас: 220030, Менск а/с 169*

Галоўны рэдактар Паўлюк Я. КУБЭ